# ЗАЯВА

*(г. Вільнюс, 30 верасня 1997 г.)*

Мы, удзельнікі міжнароднага семінара “Свабода і адказнасць сродкаў масавай інфармацыі” і рэгіянальнай сустрэчы кіраўнікоў Саюзаў журналістаў Беларусі, Латвіі, Літвы, Расіі, Украіны, Фінляндыі і Эстоніі, вельмі занепакоены лёсам нашага калегі — кіраўніка Беларускага бюро Грамадскага расійскага тэлебачання (ГРТ) Паўла Шарамета і членаў яго здымачнай групы.

П.Шарамет больш як два месяцы знаходзіцца ў турме за тое, што выконваў свае прафесійныя абавязкі.

Зачэпкай для рэпрэсіўных мераў паслужыў яго рэпартаж з беларуска-літоўскай мяжы, у якім журналіст расказаў пра патокі кантрабанды, якія праходзяць цераз неахоўваемы ўчастак мяжы.

Гэта журналісцкае расследаванне выклікала неадэкватную рэакцыю беларускага кіраўніцтва — замест падзякі за дапамогу ў барацьбе з карупцыяй і кантрабандай наркотыкаў, зброі, спіртных напіткаў, нелегальнай міграцыі, П.Шарамета абвінавацілі ў парушэнні дзяржаўнай мяжы і ўзбудзілі крымінальную справу.

Абурэнне выклікае той факт, што яшчэ да суда Прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка, разгарнуўшы праз афіцыйныя СМІ траўлю журналіста, абвінавацiў Паўла Шарамета ў сувязях са спецслужбамі замежных дзяржаў і нават у падрыхтоўцы замаху на жыццё Прэзідэнта.

Мы лічым, што рэпрэсіі супраць здымачнай групы ГРТ — гэта спроба беларускіх уладаў расправіцца з журналістамі за аб’ектыўнае асвятленне сітуацыі ў Беларусі, дзе бачныя ўсе прыкметы таталітарнага рэжыму.

Мы спадзяемся, што кіраўнікі дзяржаў, якія разам з А.Лукашэнкам бралі ўдзел у Вільнюскім Саміце 5-6 верасня 1997 года, і якія заявілі пра сваю прыхільнасць дэмакратычным пераўтварэнням, будуць больш актыўна выкарыстоўваць свой аўтарытэт для рэальнай абароны дэмакратыі, правоў чалавека і свабоды прэсы на Беларусі.

# STATEMENT

*Vilnius, September 30, 1997*

We, participants at the international seminar “Freedom and Responsibility of the Media” and the regional meeting of the heads of journalists’ associations in Belarus, Latvia, Lithuania, Russia, Ukraine, Finland and Estonia, are deeply concerned about the destiny of our colleague Pavel Sharamet, director of the Belarus bureau of Russian Public Television (ORT) and the members of his film crew.

It is over two months now since Pavel Sharamet was thrown into prison for performing his professional functions. The pretext for his imprisonment was his report from the Belarusian-Lithuanian border in which the journalist told the public about flows of goods smuggled across the unguarded border section.

This journalist investigation met with an unnatural reaction from the Belarusian authorities—instead of thanks for help in combatting corruption, illicit traffic in narcotic drugs, arms and alcohol, and illegal migration, Pavel Sharamet was charged of crossing the state border illegally, and criminal proceedings were instituted against him.

We are indignant at the fact that prior to the trial, Belarusian President Aleksandr Lukashenka launched a campaign against the journalist through the government-controlled media, and accused him of working for foreign intelligence services and even preparing an attempt upon the President’s life.

We believe that the oppression against a Russian Public Television (ORT) crew and its leader Pavel Sheremet is none other than the Belarusian authorities’ attempt to carry out a reprisal against the journalists for impartial coverage of events in Belarus, the country with all signs of a totalitarian regime.

We hope that the heads of state who participated in the Vilnius Summit of September 5-6, 1997, together with Alyaksandr Lukashenka, and who announced their adherence to the principles of democracy use their influence for effective protection of democracy, human rights and freedom of the press in Belarus.

ЖУРНАЛІСТАЎ БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ

# ВАЙНА СУПРАЦЬ СМІ

# WAR AGAINST MEDIA

## Хроніка парушэнняў свабоды слова і друку, правоў журналістаў у Беларусі ў 1997-м годзе

## Chronology of the violations of Freedom of Speech and Press.rihgts of journalists in the Republic of Belarus during the year 1997.

**7 ЛІПЕНЯ / JULY**

МЗС Беларусі афіцыйна паведаміў дырэктару Мінскага бюро ГРТ Паўлу Шарамету аб пазбаўленні акрэдытацыі "за тэндэнцыйнае асвятленне падзей у Беларусі". Раней здымачнай групе ГРТ было адмоўлена ў асвятленні ўсіх афіцыйных мерапрыемстваў, прысвечаных Дню Рэспублікі — 3 ліпеня, а таксама Дню горада Мінска. Павел Шарамет падвергся крытыцы з боку кіраўніцтва Беларусі за яго сюжэт у аналітычнай праграме "Время", за тое, што журналіст, нібыта, сказіў сэнс дзяржаўнага свята і дзяржаўнай палітыкі краіны ўвогуле.

The Belarusian Foreign Ministry officially notifies Pavel Sharamet, director of the Belarus bureau of Russia's television network ORT, of cancelling his accreditation for "biased coverage of events in Belarus". An ORT film crew was earlier denied the right to cover all official festivities on the Day of the Republic, which was celebrated on July 3, as well as on the 930th anniversary of Minsk. The Belarusian authorities criticise Pavel Sharamet for his report broadcast in the ORT Vremya (Time) analytical programme and blame him for giving allegedly misleading information about the state holiday and the government's policy as a whole.

**21 ЛІПЕНЯ / JULY**

Здымачная група ГРТ на чале з П.Шараметам была затрыманая беларускімі памежнікамі ў Ашмянскім раёне паблізу пагранпункту Каменны Лог у сувязі з парушэннем "правілаў знаходжання ў памежнай зоне". Пасля таго, як журналісты заплацілі штраф за адміністрацыйнае правапарушэнне, яны былі адпушчаныя. У праграме "Время" быў паказаны тэлесюжэт Шарамета аб тым, што мяжу паміж Беларуссю і Літвой, дэмаркацыя якой не завершана, лёгка могуць парушыць кантрабандысты, альбо нелегальныя эмігранты.

An ORT film crew led by Pavel Sharamet is seized by Belarusian border guards for violating the "regulations regarding stay in the border zone" near the border check-point Kamenny Loh in the Ashmyany district of the Hrodna region of Belarus. The journalists are fined and then released. ORT broadcasts Sharamet's report revealing that the local section of the Belarusian-Lithuanian border has no line of demarkation and is easy to be crossed by smugglers or illegal migrants.

**24 ЛІПЕНЯ JULY**

... уступіла ў сілу новае палажэнне аб знаходжанні і прафесійнай дзейнасці на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь прадстаўніцтваў і акрэдытаваных на Беларусі карэспандэнтаў замежных СМІ.

New regulations of the stay and professional activities of foreign media representatives on the Belarusian territory comes into force.

**26 ЛІПЕНЯ JULY**

Павел Шарамет быў затрыманы ў аэрапорце Мінск-2 пасля яго вяртання з кароткага адпачынку. Былі таксама арыштаваныя яго калегі — апэратар здымачнай групы ГРТ Зміцер Завадскі і кіроўца службовай аўтамашыны Яраслаў Аўчыннікаў. Усе яны былі дастаўленыя ў Гродна і змешчаныя ў СІЗА КДБ, у турму УЖ 15/ст.1.

Pavel Sharamet is arrested by border guards at the Minsk-2 airport on his return from a short vacation. His colleagues, ORT cameraman Zmitser (Dzmitry) Zavadski and driver Yaraslaw Awchynnikaw, are also arrested. They are taken to Hrodna and put in a State Committee for State Security (KGB) prison.

**30 ЛІПЕНЯ JULY**

... дырэктару Беларускага бюро ГРТП Шарамету і супрацоўнікам бюро афіцыйна прад'яўлена абвінавачанне ў наўмысным парушэнні дзяржаўнай мяжы на падставе арт.80 КК Рэспублікі Беларусь.

Pavel Sharamet and the other members of his crew are charged with deliberate illegal crossing of the Belarusian border under Article 80 of the Belarusian Criminal Code.

**31 ЛІПЕНЯ JULY**

... каля будынка Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі міліцыя затрымала пятнаццаць журналістаў — удзельнікаў акцыі салідарнасці ў абарону здымачнай групы ГРТ.

Police arrest 15 journalists while they are staging a protest against the detention of the ORT film crew near the building of the Belarusian Presidential Administration in Minsk.

**1 ЖНІЎНЯ AUGUST**

Ленінскі суд Мінска вынес прысуды па адміністрацыйных справах пятнаццаці затрыманым журналістам, якіх абвінавацілі ў правядзенні несанкцыянаванага шэсця. Карэспандэнт "Белорусской деловой газеты" Андрэй Махоўскі аштрафаваны на 5 мільёнаў рублёў. Людміла Маслюкова ("Народная воля"), Леанід Канфер (інфармацыйная служба ТСН), Уладзімір Шлапак (фотакарэспандэнт газеты "Знамя юности"), Уладзімір Мацкевіч (рэдактар часопіса "Культурная палітыка"), Дзмітрый Бандарэнка (Фонд падтрымкі незалежных СМІ) пакараныя на 3 мільёны рублёў кожны. Ірына Халіп (намеснік галоўнага рэдактара газеты "Имя"), Алег Бебенін (карэспандэнт "Имя"), Вольга Тамашэўская ("БДГ"), Ігар Чарткоў (латвійскай газета "Neatkariga"), Іна

The 15 arrested journalists are brought to trial in the Court of the Leninski District of Minsk for organising an unauthorised demonstration. Andrey Makhowski, correspondent of *Belorusskaya Delovaya Gazeta* (Belarusian Business Newspaper) is fined 5 million Belarusian rubels. Lyudmila Maslyukova, staff writer of the newspaper *Narodnaya Volya* (People's Will); Leanid Kanfer of the TSN information service; Uladzimir Shlapak, photographer of the newspaper *Znamya Yunosti* (Youth Banner); Uladzimir Matskevich, editor of the magazine *Kulturnaya Palityka* (Cultural Policy); and Dzmitry Bandarenka of the Foundation for Support of Independent Media are fined 3 million Belarusian rubels each. Iryna Khalip, deputy editor-in-chief of the newspaper *Imya* (Name); Aleh Bebenin, *Imya* correspondent; Volha Tamashewskaya of *Belorusskaya Delovaya Gazeta*; Ihar Chartkow of Latvia's newspaper

Студзінская (радыё "101,2"), Уладзімір Андронаў (аператар кампаніі WTN), Леанід Міндлін (WTN), Уладзімір Бабарыка (аператар Reuter) атрымалі судовыя папярэджанні. Суд над карэспандэнтам газеты "Товарищ" Валерыем Шчукіным быў адкладзены.

*Neatkariga*; Ina Studzinskaya of Radio 101.2; Uladzimir Andronaw, WTN cameraman; Leanid Mindlin of WTN; and Uladzimir Babaryka, Reuters cameraman, receive reprimands. The court rules that Valery Shchukin, correspondent of the newspaper *Tovarisch* (Comrade), be put on trial later.

**15 ЖНІЎНЯ / AUGUST**

... у памежнай зоне затрыманая здымачная група ГРТ у складзе грамадзянаў Расіі Анатоля Адамчука, аператара Аляксандра Аганава і кіроўцы Валерыя Асташкіна, а таксама пазаштатны аператар маскоўскага тэлеканалу ТВ-6, грамадзянін Беларусі Уладзімір Косцін. Супраць іх была ўзбуджаная крымінальная справа па факце "замаху на незаконны пераход дзяржаўнай мяжы". Машына і апаратура ў журналістаў былі часова канфіскаваныя. Грамадскае расійскае тэлебачанне ў праграме "Время" адмежавалася ад дзеянняў свайго карэспандэнта.

Пасля "пакаяннага" ліста на адрас прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі, Адамчук і яго калегі былі адпушчаны на волю (астатнія члены здымачнай групы, аднак, ніякіх дакументаў не падпісвалі). Праз тыдзень пасля затрымання яны былі перададзеныя "на рукі" кіраўніку грамадска-палітычных праграм ГРТ Аляксандру Любімаву. Уладзімір Косцін быў вызвалены пазней за іншых: "пад падпіску аб нявыездзе".

Беларускіх журналістаў Андрэя Махоўскага, Леаніда Міндліна ды некаторых іншых выклікалі на допыт у КДБ у Мінску, каб атрымаць паказанні па справе групы Адамчука.

An ORT film crew consisting of Russian citizens Anatoly Adamchuk, cameraman Aleksandr Aganov and driver Valery Astashkin, as well as Belarusian citizen Uladzimir Kostsin, cameraman of Russia's television network TV-6, are arrested in the border zone. They are charged with "attempted illegal crossing of the Belarusian border". Law enforcement agencies take hold of the car and equipment of the crew. ORT directors dissociate themselves from the action committed by the Adamchuk crew.

After Adamchuk writes a letter of "frank confession" to Belarusian President Alyaksandr Lukashenka, he is released. The other crew members are also released, although they do not sign Adamchuk's letter. Having spent a week in custody, they are handed over to Aleksandr Lyubimov, director of the ORT public and political programmes. Uladzimir Kostsin is released later on his written pledge not to flee. Belarusian journalists Andrey Makhowski, Leanid Mindlin and some others are interrogated on the Adamchuk case by the KGB in Minsk.

**18 ЖНІЎНЯ / AUGUST**

... у Мінскім бюро ГРТ супрацоўнікамі КДБ захоплены спецкарэспандэнт ГРТ, грамадзянін Расіі Уладзімір Фашэнка, які быў дапытаны ў якасці "сведкі" па справе групы Адамчука. Праз двое сутак карэспандэнт, які адмовіўся даваць паказанні, быў дэпартаваны з Беларусі ў Расію.

Russian citizen Vladimir Foshenko, ORT special correspondent, is arrested by KGB officers in the ORT Minsk office. He is subject to an interrogation on the Adamchuk case. Two days later, he is evicted from Belarus back to Russia, after he refuses to give testimony.

**5 ВЕРАСНЯ / SEPTEMBER**

Зміцер Завадскі быў выпушчаны з-пад варты да суда "пад падпіску аб нявыездзе" пасля таго, як напісаў ліст да прэзідэнта з просьбай змяніць яму меру ўтрымання. Па словах Завадс-

Zmitser Zavadski is released from custody until trial, after he writes a letter to President Lukashenka, requesting for releasing him on his written pledge not to flee. According to Zavadski, he was advised to

кага, напісаць ліст яго ўгаворваў у камеры карэспандэнт "Інтэрфакса" Сяргей Заяц.

Карэспандэнт газеты "Известия" Аляксандр Старыкевіч атрымаў позву ў пракуратуру ў якасці сведкі па справе публікацыі ўласнага артыкулу "Окончательный диагноз" у газеце "Свабода". У сувязі з артыкулам, апублікаваным яшчэ ў чэрвені, аўтар падазраецца ў "абразе" шэрагу высокіх асобаў дзяржавы.

write the letter by Syarhey Zayats, correspondent of the Interfax information agency.

Alyaksandr Starykevich, correspondent of Russia's newspaper *Izvestiya* (News), is summonned to the Prosecutor's Office in connection with the publication of his article "Final Diagnosis" in the newspaper *Svaboda* (Liberty) in June 1997. Starykevich is told he is suspected of defaming some high-ranking Belarusian officials.

**19 ВЕРАСНЯ SEPTEMBER**

... на кватэры ў Зміцера Завадскага быў праведзеныператрус, падчас якога супрацоўнікі КДБ знайшлі нож і два баявыя патроны. Завадскі адразу заявіў, што гэтыя рэчы яму ніколі не належылі. Перад гэтым аператар ГРТ прысутнічаў прыператрусе мінскага бюро (пятага па ліку за два месяцы), дзе была канфіскаваная відэакасета з рабочымі запісамі, зробленымі на афіцыйных мерапрыемствах у Мінску. Касета была далучана да справы Шарамета ў якасці "рэчавага доказу".

Zmitser Zavadski's apartment is searched. During the search, KGB officers find a knife and two cartridges to a rifle. Zavadski claims that he has nothing to do with the finds. Formerly, Zavadski witnessed a search (the fifth in two months) in the ORT Minsk office, where a videocassette with recordings of official events in Minsk was confiscated to be used as a piece of evidence about the Sharamet case.

**30 ВЕРАСНЯ SEPTEMBER**

... у "Белорусской деловой газете", "Белорусской газете", штотыднёвіку "Свободные новости плюс" распачалася чарговая праверка фінансавай дзейнасці, арганізаваная падаткавымі органамі. На гэты момант "БГ" і "СН плюс" яшчэ не расплаціліся па санкцыях, накладзеных на іх летась.

Belarusian tax agencies begin another inspection of the financial activities of *Belorusskaya Delovaya Gazeta* and *Belorusskaya Gazeta* and the weekly *Svobodnye Novosti Plyus* (Free News Plus). By that date, *Belorusskaya Gazeta* and *Svobodnye Novosti Plyus* did not manage to pay the fines which had been imposed on them before.

**1 КАСТРЫЧНІКА OCTOBER**

... рэдакцыя віцебскай газеты "Выбар", фармальна зачыненая Дзяржкамдрукам больш як год таму, прымусова выселеная гарадскімі ўладамі са службовага памяшкання. Між тым, супраць галоўнага рэдактара газеты Барыса Хамайды пракуратура ўзбудзіла справу паводле арт.188 КК ("абраза вышэйшай асобы"). Раней Хамайда праходзіў па справе Славаміра Адамовіча — аўтара вершу "Убей президента" у якасці саўдзельніка. Гэтым разам падставай для абвінавачання стала публікацыя ў газеце ўрыўка з антыўтопіі палітолага Уладзіміра Падгола "Куля для прэзідэнта".

The Vitsiebsk-based newspaper *Vybar* (Choice) is forced by the authorities to leave its office. The newspaper was formally closed down by the State Committee on the Press more than a year ago. In addition, Barys Khamayda, *Vybar* editor-in-chief, is charged with "defaming the president" under Article 188 of the Belarusian Criminal Code. Grounds for the charge is the publication of an excerpt from the antiutopia "A Bullet for the President" by political analyst Uladzimir Padhol. Formerly, Khamayda was put on trial as an accomplice to Slavamir Adamovich, author of the poem "Kill the President!".

*Падрыхтаваў Віталь ТАРАС, сябра БАЖ.*

*Compiled by Vital Taras, BAJ member*

*Не могуць быць сапраўдныя грамадзяне там, дзе кепскі ўрад, і не можа быць керскага ўрада там, дзе большасць — сапраўдныя грамадзяне.*

*Ян ЧАЧОТ*

# ГІСТОРЫЯ КАРАЕ ЗА БАЯЗЛІВАСЦЬ І БЯСПАМЯЦТВА ТЫМ, ШТО ПАЎТАРАЕЦЦА...

Крыху больш за тысячу дзён засталося да пачатку трэцяга тысячагоддзя. Але постсавецкае грамадства забылася пра гэта. Вось ужо каторы год яно жыве адным днём, бо што будзе заўтра — невядома. А радаснага, мяркуючы па ўсім, мала. Аўтарытарныя метады кіравання дзяржавай, курс на пабудову "рынкавага сацыялізму", падаўленне свабоднага прадпрымальніцтва, расправа з вальнадумствам і абвінавачванне ва ўсіх грахах падкопы заходніх спецслужбаў, навяваюць сумны ўспамін. Краіна ў цэнтры Еўропы ператварылася ў гэткі "аазіс", дзе падчас фанатычнага пошуку "нацыяналістаў, ворагаў народа і шпіёнаў", яўна прагледжваюцца сімптомы халоднай вайны. Усё гэта засталося нам у спадчыну з нядаўніх часоў, калі беспардонная хлусня і крадзеж былі ўзведзены ў ранг закона, а людзей, якія імкнуліся пра гэты КПССэсаўскі шабаш гаварыць адкрыта, кідалі ў псіхушкі ці за краты, у лепшым выпадку — высылалі ці навязвалі дысідэнцтва. Каб апраўдаць сваю нядзеяздольнасць, ідэалагічную абмежаванасць і няўменне кіраваць, тагачасныя правадыры заўсёды шукалі вінаватых і, зразумела, "знаходзілі". Не без дапамогі афіцыйнай партыйнай прэсы. Шпіёнаманія захліснула грамадства.

Вось рубрыкі і цытаты з газеты "Советская Белоруссия" 1937 года: "Выше революционную бдительность к врагам народа!", "Поможем славным органам НКВД до конца выкорчевать и уничтожить заклятых врагов социализма — троцкистско-бухаринских и иных шпионов и диверсантов!", "...Мы должны показать и покажем этой контрреволюционной сволочи, что у нас хватит сил, чтобы стереть с лица советской земли эту падаль, очистить нашу землю от этой грязной погани!" і г.д. "Пралетарскі суд" бязлітасна "выкарчоўваў" лепшых гаспадароў, святароў і настаўнікаў — на вёсцы, навуковую і творчую інтэлігенцыю — у гарадах. А праз сем дзесяцігоддзяў "вялікую і магутную" імперыю разбіў параліч эканамічнай разрухі. Дзякуючы звар'яцелай палітыцы дарваўшыхся да ўлады "матросаў-жалязнякоў", яна без усякіх варожых "падкопаў" і "дыверсій" сама стала на калені. Так і стаіць дагэтуль. І вось зноў чуюцца пагрозы ў адрас журналістаў, дэмакратаў, інтэлігентаў ад апазіцыі, заявы пра падрыўную дзейнасць заходніх спецслужбаў і г.д. Грамадзян суверэннай дзяржавы і журналістаў, чыя пазіцыя розніцца ад "афіцыйнай", пачалі збіваць, саджаць у турмы, пазбаўляць працы, судзіць і штрафаваць. А прынятыя 15 кастрычніка 1997 г. Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь у другім чытанні папраўкі ў Закон "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі", наогул закавалі СМІ ў кайданы цэнзуры і неабмежаванага кантролю. Іх цяжар хутка адчуе не толькі незалежная прэса, але і афіцыйная. Хаця і без таго заканадаўчая база ды становішча прэсы на Беларусі не адпавядаюць міжнародным нормам і далёкія ад еўрапейскіх стандартаў.

У такой сітуацыі кожны журналіст мусіць зрабіць выбар: паміж сумленнем, прафесійнай годнасцю, смеласцю і мужнасцю пісаць праўду, і — "афіцыйнай" хлуснёй, нагнятаннем сацыяльнай напругі ў грамадстве, выкрыццём "нацыяналістаў і ворагаў інтэграцыі" і поўнай прафесійнай дэградацыяй.

**Гэтыя і многія іншыя праблемы абмяркоўваліся падчас міжнароднай канферэнцыі "СМІ Беларусі: адметнасці заканадаўства, правы і абавязкі журналістаў", якая 19-20 верасня 1997 года працавала ў Мінску.**

**На старонках гэтага выпуску ў вас будзе магчымасць азнаёміцца з самымі рознымі меркаваннямі і высновамі наконт сітуацыі, у якую трапілі сродкі масавай інфармацыі Беларусі. Працяг гэтай размовы мы прапануем вам, шаноўныя калегі, і ў наступным нумары бюлетэня "Чацвёртая ўлада". Бо шырокую палітру дыскусій і выказванняў журналісцкай браціі наконт свабоды слова проста немагчыма ўмясціць у адным выданні.**

**Нам будзе цікава даведацца пра ваш выбар і пазіцыю ў гэты нялёгкі для прэсы час.**

**Пішыце, звaніце, заходзьце.**

**Тэл. 223-63-66.**

**У.ДЗЮБА,**
**сябра праўлення БАЖ**

International conference





*Ігар ГЕРМЕНЧУК,*
*галоўны рэдактар*
*газеты "Свабода"*

# СВАБОДА ПРЭСЫ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД НАС САМІХ

Я хацеў бы, каб мой выступ быў карысны. Бо, што тычыцца нашай практыкі, то яна вельмі багатая — практыка дачыненняў з судамі і, апошнім часам, з пракуратурай. Калі тры гады таму нашымі справамі пераважна займаліся суды, то апошнім часам усё часцей справы гэтыя — крымінальныя, і імі займаецца пракуратура. Гадоў пяць таму ў нас пачаліся гучныя судовыя працэсы: судзіліся і спікер парламента, і дзяржсакратар па кантролі за сілавымі ведамствамі... І практыка паказала, што калі судзіцца высокапастаўлены чыноўнік, то газеце выйграць працэс практычна немагчыма.

Часцей за ўсё супраць СМІ выкарыстоўваецца артыкул 5 Закона аб друку і артыкул 7 Грамадзянскага кодэксу, дзе гаворка ідзе пра абразу гонару і годнасці грамадзянаў. Артыкул пяты даволі расплыўчаты, а артыкул 7 ГК прадугледжвае адказнасць за распаўсюджванне звестак, якія не адпавядаюць сапраўднасці і абражаюць гонар і годнасць грамадзянаў. Праблема, аднак, у тым, што суды вельмі вольна трактуюць гэты артыкул. Калі, напрыклад, нам у судзе даводзіцца пацвярджаць тыя ці іншыя звесткі, — гэта адно. Іншая справа, калі ісцец кажа, што яго абражае тое, што яго назвалі некампетэнтным. І нам даводзіцца доказваць у судзе, што гэта ацэначнае меркаванне аўтара, што яно не можа з'яўляцца фактам альбо звесткай. Тым не менш, суд вымушаў нас даказваць, што чалавек, пра якога мы напісалі, сапраўды некампетэнтны. І, дапусцім, калі мы судзіліся з дзяржкамсакратаром Данілавым (было сказана ў артыкуле, што ён некампетэнтны ў кіраванні сілавымі ведамствамі), то Данілаў, у апраўданне сваёй некампетэнтнасці, прынёс дыплом юрыста, спіс сваёй кар'еры, што калісьці ён узначальваў у абкаме юрыдычны аддзел і г.д. Ну і суд прызнаў, што мы абразілі гонар і годнасць Данілава, назваўшы яго некампетэнтным. Такім чынам, вы разумееце, што журналістаў могуць прыцягваць да адказнасці за такія ацэначныя меркаванні. І таму лепш у такой сітуацыі, калі гэта не ключавая пазіцыя ў артыкуле, пазбягаць такіх ацэнак альбо разлічваць, што вас за гэта могуць прыцягнуць да адказнасці. Бывае і так, што прыцягваюць да адказнасці за кантэкст. Напрыклад, фактаў, якія не адпавядаюць сапраўднасці, у артыкуле няма, але кантэкст, маўляў, такі, што гэты "герой" мае дачыненне да гэтай непрыгожай гісторыі. Такім чынам, вас могуць таксама асудзіць за кантэкст. Вас могуць асудзіць і ў сітуацыі, калі вы нават не называеце прозвішча канкрэтнага чыноўніка.

Аднойчы на старонках нашай газеты ішла гаворка пра Гродна і жанчыну, маёра падаткавай інспекцыі. І яна піша іск у суд, што "у Гродне жанчынай і маёрам падаткавай інспекцыі з'яўляюся толькі я". І суд становіцца на пазіцыю такую, што калі можна без прозвішча ідэнтыфікаваць, што ў Гродне толькі адна жанчына — маёр падаткавай інспекцыі, то можна яе іск разглядаць і лічыць абгрунтаванымі яе прэтэнзіі. У прынцыпе, гэта нармальна, калі ў суд звяртаецца чалавек. Але кепска, што суд судзіць за ацэнкі і меркаванні, а не за факты. Калі мы пішам, што, напрыклад, гэты чалавек украў, то мы мусім гэта даказаць. Аднак, калі мы пішам, што чалавек не разбіраецца ў справах, то гэта наша меркаванне. І, думаю, за меркаванне судзіць нельга!

Артыкул 5 Закона аб друку актыўна выкарыстоўваецца Дзяржкамдрукам для аб'яўлення папярэджанняў рэдакцыі. Але пасля двух папярэджванняў на працягу года, Дзяржкамдрук мае права падаваць іск аб закрыцці газеты. Такі іск супраць нашай газеты быў пададзены ў лістападзе мінулага года, і працэс затармазіўся толькі таму, што мы сталі ў судовым парадку аспрэчваць тыя папярэджанні, якія вынес Дзяржкамдрук нашай газеце. І таму працэс прыпыніўся, бо разглядаюцца нашы сустрэчныя патрабаванні. Аднак, я думаю, што праблема не ў нашых сустрэчных патрабаваннях, а ў тым, што не суд вырашае працяг гэтай гісторыі. Вырашаць "наверсе", у Адміністрацыі прэзідэнта, закрыць газету, суд прыме гэта да ведама і працэс завершыцца за два дні.

У апошнія гады супраць газеты і журналістаў стаў прымяняцца Крымінальны кодэкс. Штомесяц мне даводзіцца два-тры разы наведваць пракуратуру; выклікаюць на допыт у якасці сведкі, паколькі ўзбуджаны крымінальныя справы па публікацыях у нашай газеце. Такая справа была ўзбуджана ўвесну за тое, што мы, нібыта, раскрылі тайну следства па справе Тамары Віннікавай. Сітуацыя такая, што ў артыкуле 5 Закона аб друку запісана, што не дапускаецца выдаванне тайны матэрыялаў следства. Я і кажу следчаму, што мы не маглі гэта зрабіць, паколькі да матэрыялаў следства нас не дапускалі. Як мы маглі выдаць тое, чаго мы не бачылі?! Тым не менш, слества вялося два месяцы і яны закрылі гэтую справу з фармулёўкай, што "в силу того, что был нанесен незначительный ущерб следствию..." Але гэты артыкул, здаецца, прадугледжвае год пазбаўлення волі.

Цяпер расследуецца справа па артыкуле "клевета"... Гэты артыкул прадугледжвае да пяці гадоў пазбаўлення волі. Фактычна па гэтым артыкуле, калі законна судзіць, асудзіць немагчыма. Паколькі суд павінен даказаць, а я прызнаць, што я ведаў, што гэтыя факты хлуслівыя, але распаўсюдзіў іх. Тым не менш, гэтая справа расследуецца ў дачыненні артыкула Старыкевіча, дзе аналізаваліся падзеі канца мінулага года і была выснова аўтара, што ў краіне быў здзейснены дзяржаўны пераварот. Пра гэта, фактычна, кажуць усе сілы дэмакратычнай арыентацыі, а нам інкрымінуюць, што мы "клявешчам" на прэзідэнта, абвінавачваючы яго ў здзяйсненні асабліва цяжкага дзяржаўнага злачынства. Вось такі абсурд... Такія прыклады можна пералічваць бясконца.

Праблема, аднак, у тым, што ўсе гэтыя справы не столькі залежаць ад суда ці пракуратуры, колькі ад таго, як вырашыць адміністрацыя прэзідэнта. Паколькі тэхналогія ўзбуджэння ўсіх гэтых спраў паказвае, што ініцыятыва зыходзіць не ад пракуратуры, а зверху...

Галоўная мэта гэтых, цяпер ужо часта крымінальных спраў, — запалохаць канкрэтных журналістаў і канкрэтных рэдактараў газет. Паколькі, калі следства прызнае, што газета дапусціла "клевету", то справа ўзбуджаецца супраць аўтара публікацыі і рэдактара. Так дасягаецца мэта запалохаць асобных журналістаў і на іх прыкладзе астатніх. Вы думаеце тое, што Паўла Шарамета трымаюць у турме, гэта толькі супраць яго такая сілавая акцыя? Гэта акцыя супраць усіх нас! Маўляў, бачыце, што можа быць? Другая іх мэта — гэта выявіць крыніцы інфармацыі. Я думаю, што ніхто з нас ні пры якіх умовах не павінен называць крыніцы інфармацыі. Бо калі хто-небудзь назаве, то гэта будзе прэцэдэнт і нам папросту больш не будуць даваць інфармацыю.

Я думаю, што самыя горшыя часы ўсё ж такі наперадзе. Зараз прэзідэнт Лукашэнка як бы крыху "ліберальнічае", у тым сэнсе, што, магчыма, чакае, пакуль Захад прызнае яго рэжым легітымным (маецца на ўвазе паслярэферэндумная сітуацыя). Таму ён і не робіць занадта рэзкіх рухаў накшталт закрыцця газетаў ці масавай "пасадкі" журналістаў. Але, я думаю, што такая сітуацыя будзе нядоўгай, і прэзідэнт даможацца прызнання і развяжа сабе рукі, альбо пабачыць, што дамагацца прызнання бессэнсоўна і таксама развяжа сабе рукі. Думаю, што гэты перыяд можна наступіць, самае позняе, напачатку наступнага года. Перыяд жорсткіх рэпрэсіяў. І мы павінны быць да гэтага гатовы.

Мяркую, што ніхто з нас не павінен пісаць ніякіх пакаянных лістоў, бо гэта кепскі прыклад. Я думаю, што мы павінны цвёрда трымацца прынцыпаў, якім служым, гэта прынцыпы свабоды слова і свабоднага распаўсюджвання праўдзівай інфармацыі. І яшчэ мы павінны разумець, што ніхто нам не дапаможа — ні Захад, ні Еўрасаюз, ніхто!.. Нашы замежныя калегі могуць толькі, напрыклад, маральна паўплываць на сітуацыю. Але вырашэнне праблем, якія тычацца свабоды прэсы, залежыць толькі ад нас!

# ЕЎРАПЕЙСКІ СУД ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА БАРОНІЦЬ ЖУРНАЛІСТАЎ

# EUROPEAN HUMAN RIGHTS COURT PROTECTS JOURNALISTS



Марыю ОТХАЙМЕР,
прадстаўнік Савета Еўропы

Mario Oetheimer
The Council of Europe

Позвольте мне, в первую очередь, поблагодарить организаторов этой конференции за те усилия, которые они предприняли во время подготовки этого события.

Я очень рад возможности выступить перед вами сегодня. Практически, прошел ровно год после моего последнего визита в Беларусь. Этот опыт был очень ценным для меня.

За это время ситуация в Беларуси скорее отошла назад, нежели приблизилась в сторону интеграции с европейскими институтами. Последние решения на межправительственном уровне в Страсбурге и Брюсселе подтвердили это. Тем не менее, я рад присутствовать здесь от имени Совета Европы, тех людей, которые защищают деятельность журналистов во всей Европе. Я хочу поговорить сегодня о специфике юриспруденции в Совете Европы и европейской комиссии по защите прав человека. Более подробно эта тема освещена в докладе, который распространяется Советом Европы, и его версия есть у нас здесь. Я расскажу о том, что мы называем юриспруденцией случаев давления на честь и достоинство и как это рассматривается международным судом.

Критерии свободы прессы содержатся в 10-й статье Европейской Конвенции по правам человека. Она гарантирует в общем право на выражение позиции, иметь свое мнение и получать любую информацию. И этим правом человек должен пользоваться без каких-либо вмешательств со стороны властей и независимо от границ. Наблюдательный орган этой комиссии, то есть суд, всегда волнует потенциальное ограничение и давление на свободу мыслей и идей. Тем не менее, статья 10 Европейской Конвенции не дает абсолютное право на свободу изъявления. А одним из исключений, которое представляет интерес для нас сейчас, является защита репутации и имени. Очевидно, что полная свобода изъявлений может каким-то

Allow me first of all to thank the organiser of this seminar and to pay tribute to the efforts which they have made to run up this event.

I am so delighted to be able to speak before you today. Almost exactly one year has past since my first visit to Belarus. This experience was valuable for me.

Science that first visit the situation in Belarus has evolved away from integration with the European Institution. Recent decision at the interstate level in Brussels and in Strasbourg confirmed this. Nevertheless, I am pleased to be here today representing the Council of Europe and its interest in supporting the development in protection of independent media through out Europe. Today I would like to talk to you about jurisprudence of the European Commission and Code of Human Rights on the specific issue of press freedom. A more detail report is published by the Council of Europe in this document and its English and Russian versions are also here. In my speech I will address to some cases what could be called a defamation and insult of jurisprudence as did on base of European Court on Human Rights.

Press freedom is the art with an Article 10 of the European Convention on Human Rights, which guarantees the right to freedom of expression generally. This is defined as including the right to hold opinions, and to receive any part of information. This right should be exercised without any public authority interference and regardless of frontiers. The Convention supervisory body, Commission and the Court, were always concerned with assessing potential restriction to press freedom according to the European standards. However Article 10 of the European Convention does not provide an absolute right to freedom of expression. One restriction to this right which would interest us now is a protection of

образом нанести ущерб репутации и иногда очень даже серьезный. В таких условиях верховный суд всегда дифференцировал права политического деятеля и просто личности. Здесь есть, конечно, разница. Цитируем: "Политик, зная это, всегда ставит себя в открытое положение перед обществом за каждое действие и сказанное слово, которые могут быть предоставлены как журанлистами, так и всем обществом". Более того, Европейский суд заявляет, что "свобода прессы представляет обществу один из лучших вариантов открытия и формирования точки зрения на идеи и отношения политических лидеров". Таким образом, имеется очень большая возможность критиковать те или иные действия политиков и быть застрахованным от давления на прессу. И эти два принципа всегда направляли суды на принятие ими решений.

Я приведу два примера. Около 10 лет назад один австрийский журналист предстал перед судом за то, что высказал что-то не очень порядочное по отношению к канцлеру Австрии. Его обвинили в том, что он опорочил честь и достоинство. И суд точно так же, как рассказывал господин Герменчук, попросил журналиста доказать свою точку зрения. Но Европейский суд сказал, что если наличие фактов можно продемонстрировать, то правдивость оценок или точек зрения не подлежит доказательству. И, таким образом, суд отклонил это обвинение на основании ст.10.

Второй пример, более свежий. И он снова касается того же австрийского журналиста, господина Обершлика. В Страсбурге его хорошо знают, потому что он выиграл уже два судебных дела. В недавнем же деле произошло следующее: господин Обершлик рассказал об одном крайне правом политическом деятеле Австрии и написал в статье, что этот деятель — идиот. Австрийский суд провел заседание по делу о высказываниях, порочащих честь и достоинство. Потом Европейский суд по правам человека не признал это решение, заявив следующее: слово "идиот" именно в этом конкретном случае нельзя считать точкой зрения. И, рассматривая выступление политика, отметил, что это слово очень хорошо можно еще раз подтвердить. Потому что в своей речи этот крайне правый политик сказал, что всех военных деятелей времен второй мировой войны — всех их, без исключения, можно считать героями.

Я надеюсь, что эти принципы актуальны для вас в каждодневной жизни. Потому что мы в Совете Европы считаем, что они могут использоваться не только на международном уровне, но и национальными судами. Или, в случае с Беларусью, если я правильно понял, прокурором. Потому что выполнение этих норм будет подвергнуто тщательному исследованию, когда Беларусь будет продвигаться дальше в направлении интеграции, членству в Совете Европы.

Я готов с вами обсудить любые вопросы.

Спасибо за внимание.

reputation and rights of others. Clearly, some forms of expression can affect, or damage the reputation of a person. Sometimes very seriously. In these circumstances the European Court has always been very clear in differentiating between the private individual and the politician. Because the reputation of a politician who, let me quote: "inevitably and knowingly lays himself open to close criticism of his every word and did by both journalists and a public a large". Moreover, the European Court also states, that, and I quote again: " freedom of the press affords to public one of the best means of discovering and forming an opinion of the ideas and attitude of political leaders". Thus we have two principles: on the one hand - right to criticise a political leader, and on the other hand – to be insured against any pressure on the Press. These two principles always guide the Courts in its decision.

Let me give you two brief examples. About ten years ago Austrian journalist was prosecuted in Austria for having criticised the Chancellor of Austria. He was convicted for defamation, and the Court asked him to prove, exactly as Mr. Germenchuk was mentioning before, his opinions. But the European Court said, that if the existence of facts can be demonstrated, the truth of value judgements, meaning opinions, is not susceptible of proof. Therefore the Court upheld the decision and found the violation of Article 10.

The second example is much more recent. It concerns again an Austrian journalists Mr. Oberschlig, very well known in Strasbourg, because he won already two cases. In that case Mr. Oberschlig said about an extreme right-wing politician in Austria and wrote an article about him saying that he was an idiot. The Austrian Court prosecuted the journalist for insult. There again the European Court of Human Rights upheld the decision saying, that the word *idiot* in this very case cannot be considered as an opinion and when looking at the speech of the politician can be very well justified. In that case the extreme right-wing politician said that all the military in the Second World War should be considered as hero without differentiating.

I hope that this principle can be useful for you in your everyday life here, because we at the Council of Europe believe that they should be practice not only at the international level, but also by the national courts, or in case of Belarus, if I understood correctly, by the Prosecutor. Because these standards will be scrutinised when Belarus will move again towards integration and towards its membership to the Council of Europe. I just hope that we can talk a little bit later and do not hesitate if you have any questions.

Thank you for your attention.



# “СМИ в разрушенном правовом пространстве”

*Аляксандр ПАТУПА, дырэктар Цэнтра даследавання будучыні*

Выражаю благодарность организаторам этой конференции в такое, прямо скажем, нелегкое время. Это очень важно, чтобы мы встречались, имели возможность обмениваться мнениями и вырабатывать совместные подходы для преодоления проблем, стоящих перед обществом.

Во-первых, сегодняшняя ситуация, в которую мы реально попали, это ситуация разрушенного политико-правового пространства. Хотя в последние несколько лет относительной свободы мы стремились к евроатлантической традиции в отношении правового обеспечения. Это нормальный правовой подход, нормальное разделение ветвей власти, нормальная роль общественных объединений, то есть третьего сектора, нормальное состояние экономического сектора, то есть максимальное и естественное развитие свободного предпринимательства. Совершенно ясно, что эти факторы между собой взаимосвязаны, и совершенно понятно, что наше руководство стало наносить удары возрастающей силы по всем, собственного говоря, демократическим системам общества. Одна ветвь исполнительной власти взяла, практически безальтернативно, под полный контроль весь государственный сектор, и это ломает контрольно-корректировочные механизмы государственной подсистемы, и мы понимаем, насколько это опасно. Установлен полностью контроль над экономическим сектором, а меры подавления свободного предпринимательства вам известны. И, наконец, в совершенно жесткой форме атака на третий сектор, атака на СМИ. Но существенно то, что разрушается сама правовая основа. Здесь, я уверен, будет много обсуждений и дискуссий по поводу ограничения свободы слова, нововведений в Закон о печати и так далее. Но я хочу сказать, что, в общем-то, по большому счету это все бесполезно. По той причине, что сама правовая структура в настоящее время сломана. Я это говорю с той позиции, что во многом этот путь пытался проходить, когда имел дело с защитой предпринимательского сектора. И получилось, что в какой-то момент всякие законодательные инициативы стали просто бесполезны. Потому что сама система, белорусское руководство, понимает любые законодательные предложения только как действия по дальнейшему укреплению и абсолютизации своей власти с получением каких-то собственных экономических выгод. И больше ничего! Никакие иные вещи не воспринимаются, хотя по этому поводу возможны публичные разговоры и т.п., но речь здесь идет принципиально только о возможности совершенствования и смены этой порочной системы.

(Далей, як прыклад разбуранай прававой прасторы, дакладчык прывёў палажэнне Дзяржкамдруку аб ліцэнзаванні выдавецкай дзейнасці, якое “рэгламентуе” і вызначае лёс усіх выдавецкіх сістэм, а разам з тым надзяляе неабмежаванымі функцыямі кантролю і цэнзуры чыноўнікаў Дзяржкамдруку.

Даволі грунтоўны аналіз адпаведнага палажэння, які падрыхтаваў А.Патупа, чытайце ў N. 7 бюлетэня “Чацвёртая ўлада”).

И не нужно думать, что это касается только книгоиздателей, это касается и тех людей, которые издают газеты и журналы, самые разные периодические печатные издания. На фоне этого положения всякие разговоры о законодательных предложениях уходят в область фантастики.

И обращаю ваше внимание, что нам в этой ситуации нужно иметь новые подходы в своей деятельности. Откровенно говоря, суть сейчас не в детализации тех или иных законопроектов, а в том, чтобы предпринять какие-то действия, которые смогут качественно изменить ситуация и эту систему. Потому что эта система взаимодействовать с людьми, которые обладают нормальным правовым мышлением, не будет никогда. Она по принципу своего развития совершенно иная.

Теперь несколько локальных тезисов, касающихся нашей текущей ситуации. Во-первых, это вопрос с арестом Павла Шеремета. У меня было несколько дискуссий с очень уважаемыми мною людьми и я помню тот момент эйфории, когда казалось, что Павел вот-вот будет выпущен. Но, господа, нет! Это качественно иная ситуация в правовом отношении. Речь идет об обычной системе заложничества, которая вообще из системы цивилизованного мира просто выпадает. Поэтому попытка действовать здесь обычными правовыми методами натыкается на гонения, в том числе, и против адвокатов, против тех юристов, которые пытаются защищать закон. Да не выпустят его так просто! Заложников без выплаты, так сказать, определённой "суммы", в чем бы она ни выражалась, не выпускают просто так. Речь идет о системе заложников!

Чтобы почувствовать, что такое разрушенное правовое пространство, обратите внимание, как точно и заранее были спланированы все точки возможных и невозможных ударов. Это — подавление СМИ, с одной стороны, и адвокатуры — с другой. Выстраивается, по сути дела, вертикаль, которая подавляет защитный механизм общества.

И еще один, заключительный момент, о перспективах... У меня сложилось такое впечатление, что команда наверху вполне готова к проведению "массовок", то есть массовых репрессий. Готов полностью механизм возбуждения уголовных дел по ряду лиц, которые многократно участвовали в демонстрациях и платили штрафы. Это все готовится в массовом варианте и вряд ли затянется надолго. Дальше эта система будет развиваться именно в таком направлении, к этому нужно быть готовым и совершенно осознанно понимать, что происходит. И если, подчеркиваю, не будет координированных действий со стороны России и Европейского Союза, то "сценарий" будет развиваться вышеупомянутым способом, и мы будем наблюдать "изумительные" сцены в течение ближайших месяцев.



*Малюнак А.КАРПОВІЧА*



# ПОЛИТИЧЕСКОЕ ДЕЛО – ВСЕГДА РАСПРАВА

*Гарри ПОГОНЯЙЛО,*
*адвокат*

В отношениях с журналистами я иногда бывал и на противоположной стороне, представляя интересы некоторых граждан, которые считали, что рядом публикаций затронута их честь и достоинство. Они обращались ко мне за оказанием юридической помощи и я таковую оказывал. Поэтому у меня сложные отношения с уважаемой прессой. Но так уж судьба сложилась, что мне посчастливилось защищать ряд наших очень интересных журналистов.

Среди этих дел выделяется арест Павла Шеремета и группы работников Белорусского бюро ОРТ, связанный с выполнением ими профессионального долга. Всем понятно, что дело это не уголовное, дело это — политическое. И Александр Сергеевич Потупа правильно отметил, что Павел является просто заложником нынешней политики нашего руководства. Я хочу рассказать вам фактическую сторону этого дела, без всяких личных эмоций.

Мы неоднократно обращались к следственным органам, осуществляющим надзор прокурорам, в том числе, к Генеральному прокурору Республики Беларусь о незаконности задержания, ареста и уголовного преследования Павла Шеремета, Дмитрия Завадского и Ярослава Овчинникова. Известно, что эта группа была задержана 26 июля 1997 года: Павел Шеремет и Ярослав Овчинников — в аэропорту Минск-2, а Дмитрий Завадский — прямо на квартире. Причем, с первых же дней задержания по отношению к ним допускались грубейшие нарушения законности, которые выразились хотя бы в том, что с момента задержания им запретили связаться с родственниками, сотрудниками Белорусского бюро ОРТ, сотрудниками редакций газет для того, чтобы оповестить, что они задержаны. Их отправили в Сморгонский погранотряд, а к этому времени дело уголовное уже было возбуждено и, несмотря на то, что дело возбуждено в отношении конкретных лиц, и Павел Шеремет, и другие ребята допрашивались в качестве свидетелей, то есть под страхом уголовной репресси и за отказ от дачи показаний, за дачу заведомо ложных показаний. От них требовали сведений, по-существу, против самих же себя. При этом и дознаватели, и следователи понимали незаконный характер своих действий. Несмотря на то, что задержание состоялось 26 июля 1997 года, протокол задержания был составлен более чем на сутки позже! И это тоже было сделано абсолютно сознательно. А затем, 30 июля, Павлу Шеремету, Дмитрию Завадскому и чуть позже Ярославу Овчинникову было вчинено обвинение в незаконном переходе государственной границы Республики Беларусь по предварительному сговору группой лиц и повторно. И смех состоит в этой "повторности"... Предположение, что все-таки на пару шагов переступили границу, а затем вернулись. Ну, видимо, нужно было так — уж коль осознали, что переступили, явиться к литовским властям, покаяться в совершенном, попросить разрешения на переход уже литовской границы и вернуться в Белорусское бюро ОРТ.

Известно, что по февральскому договору 1995 года граница между Литовской Республикой и Республикой Беларусь должна быть в инженерном плане оборудована. Но ни та, ни другая сторона до сих пор еще не приступили к обустройству границы на этом участке. Таким образом, граница государственная не обозначена на местности. И в этих условиях мы можем полагать, что, возможно, неосторожно кто-то из участников этой группы мог заступить, что называется, на границу. Но при этом прямого умысла на совершение уголовно наказуемого деяния никто из них, естественно, не имел. Все они занимались своей профессиональной работой. Это не контрабандисты, которые пытались пронести контрабандный товар, используя статус журналиста, это не проводники нелегалов через границу, это не иные нарушители, которые действительно осознают социальную опасность своих действий, желают совершить эти действия и совершают их.

